© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0346—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1581) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 31 ЖНІЎНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.





Дзеці з Хільмонаў: Віялета Каленік — 5 год, Андрэй Каленік — 3 гады, Аня Каленік — 6 год.
Фота М. Хмялеўскага.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## СОН АБ СВАБОДЗЕ

Сядзелі мы за гасцінным сталом у віцебскім памяшканні **Алега Іванавіча Фёдарава,** але думкамі найчасцей блудзілі па надбужных вёсках, дзе **Паліна Яфрэмаўна** разам з дачкой **Інесай** і сынам **Алегам** правяла цяжкія гады гітлераўскай акупацыі, дзе назаўжды астаўся яе муж **Фёдараў Іван Іванавіч** — камандзір 1 роты 17-га кулямётна-гарматнага асобага батальёна, які ўваходзіў у састаў 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна. Асабліва з вялікай удзячнасцю ўспамінала яна пра бязмежную дабрату Марыі і Яна Врублеўскіх — сялян з вёскі Бацікі Сярэднія, што ў Сямяціцкай гміне. Яны першыя працягнулі гэтай абяздоленай сям'і дапаможную руку, падзяліўшыся з ёю і хлебам, і дахам над галавою ды ўзяўшы на сябе часцінку іх вялікага гора. Без гэтай бескарыслівай дапамогі, без спагады намнога цяжэй было б перажыць ім час акупацыі.

Вось у сям'і Турчукоў, у гэтых жа Баціках Сярэдніх, знайшла прытулак Кучэрына Раіса Паўлаўна, жонка камандзіра хімроты, які таксама прапаў недзе ў агні першых дзён вайны.

— Жыла яна там разам з Зайцавай, — паясняе Паліна Яфрэмаўна, а я ад сябе дабаўлю, што лейтэнант Зайцаў камандаваў 3-ай ротай у гэтым жа 17-ым батальёне. Яго рота трымала абарону ў дотах, што і сёння яшчэ тырчаць між вёскамі Слохі Аннапольскія і Турна Малая.

— Вось гэтая Кучэрына, — прадаўжала Галіна Яфрэмаўна, — мела чацвёра дзяцей. Самае меншае з гэтай чацвёркі, Косцік, быў амаль равеснікам з маім Алегам, — маці ласкава паглядзела на свайго сына, што разам з намі сядзеў за сталом, цяпер ужо дарослага, сталага мужчыну, якому ў чэрвені 1941 года, калі гітлераўцы ўдарылі па надбужных дотах, не споўнілася яшчэ і двух тыдняў жыцця. Алег Іванавіч адказаў маці той жа дружалюбнай усмешкай, і Паліна Яфрэмаўна прадоўжыла свой расказ:

— Калі толькі немцы пачалі абстрэльваць нашы доты, Кучэрына сабралася ўцякаць, каб як мага далей на ўсход ад пекла над Бугам. Трохтыднёвага Косціка яна несла на руках, а тройка старэйшых — дзве дзяўчынкі і адзін хлопчык, Валерка,

(Працяг на стар. 6)

## ПАСЯБРАВАЛІ З БЕЛАСТОКАМ

У жніўні ў Беластоку адпачывала група піянераў з Гродна. Прыехалі яны па запрашэнню аб'яднання прафсаюзаў у Беластоку.

У будынку Ваяводскага цэнтра сельскагаспадарчага прагрэсу пры вул. Барсучай у Дайлідах, амаль у дайлідскім парку, адпачывалася ім утульна і спакойна. Апекаваўся госцьмі кіраўнік Цэнтра Люцыян Банькоўскі, які вельмі пасябраваў з дзецьмі, а тыя з кожнай сваёй справай звярталіся да польскага выхаваўцы. Пан Люцыян пастараўся, каб гродзенцам у Беластоку было цікава, каб яны мелі як найбольш уражанняў і былі задаволены пабыўкай у нашым горадзе.

Мне давялося прыехаць да дзяцей якраз у той момант, калі ў іх адбывалася сустрэча з госцем з Варшавы, працаўніком Галоўнага Праўлення ТППР Чаславам Тарчынскім, дарэчы, аўтарам некаторых польскіх тэкстаў да савецкіх песень на фестывалі ў Зялёнай Гуры. Пан Часлаў вельмі сардэчна вёў размову. Расказваў дзецям аб польска-савецкім гандлёвым і наву-

(Працяг на стар. 4)

## ШТО НОВАГА Ў СПРАВЕ ПАБУДОВЫ БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Пра пабудову новага будынка для Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы гаворыцца даўно. Мы таксама ў „Ніве" не абмінулі гэтай тэмы. Ніхто ніколі не аспрэчваў такой патрэбы — ані з гайнаўскіх, ані з ваяводскіх уладаў. Кожны згаджаўся, што такая пабудова неабходная. І вось прыйшоў час калі можам больш канкрэтна сказаць аб гэтай справе. Факт першы: пастанова аб патрэбе пабудовы ў 1990 годзе ліцэя апынулася ў перадз'ездаўскіх пастулатах гарадской канферэнцыі ПАРП у Гайнаўцы. Факты далейшыя. Пасля розных дыскусій, у якім месцы будаваць ліцэй (напрыклад, у некаторых была думка, каб прыляпіць яго да пачатковай школы, пабудова якой пачнецца ў 1988 годзе на новым пасёлку горада „Мазуры", ды канцэпцыя гэта канчаткова цяпер адпала) вырашана распачаць пабудову ліцэя на тэрыторыі, дзе і цяпер стаіць стары будынак, значыць, на вул. Вызвалення. Тут вялікае, прыгожае месца, традыцыйнае ўжо для школы, вельмі прыдатнае, адусюль блізка. Тут разам з новым будынкам вырастуць іншыя школьныя аб'екты, як, напрыклад, басейн, які плануецца тут жа пабудаваць. А стары цяперашні будынак ліцэя пасля рамонту пойдзе на інтэрнат, якога ліцэй не мае, а вельмі патрабуе.

Гайнаўка вельмі будуецца. Растуць гіганцкія аб'екты. У 1990 г. закончыцца пабудова гайнаўскай бальніцы — гіганта. У бягучай пяцігодцы пачнецца і закончыцца пабудова гарадской ачышчальні. У бягучым жа годзе будзе аддадзены ў карыстанне вакзал ПКП. Гэта толькі самыя вялікія гайнаўскія інвестыцыі.

Новы беларускі ліцэй таксама будзе належаць да інвестыцый вялікіх, а яго пабудова пачнецца ў 1990 г., у пачатку новай пяцігодкі і, як гавораць гайнаўскія ўлады, няма і не будзе ніякіх перашкод, каб рэалізаваць гэтую будоўлю на працягу

(Працяг на стар. 3)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXXII)

Апошні сакавіцкі агляд „Беларускай песні" паказаў адназначна, што ў глыбінях нашай нацыянальнай меншасці дрэмлюць невычэрпныя ініцыятыўныя магчымасці ў галіне некансумпцыйнай аўтэнтычнай культуры.

Праўда, ёсць адзін момант, які насцярожвае. У большасці выпадкаў выступаючыя — гэта людзі сталага, а нават пажылога ўзросту. Здараюцца выпадкі, якія запярэчваюць вышэй сказанаму. Для прыкладу, маладзенькія дочкі Макаца, або два пакаленні (маці і дачка) дасканалых спявачак: Люба Гаўрылюк і Аля Дубец. Гэтая апошняя праспявала адну песню з малым дзіцём, якое рвалася да мікрафона. І ў гэтым быў як бы сімвал таго, што і ўнук ці ўнучка таксама будуць развіваць беларускую песенную культуру. І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя аптымістычныя сімптомы, трэба сказаць, што параўнаўча ўдзел моладзі ў аматарскім беларускім руху недастатковы. Што рабіць, каб працэнт моладзі сярод членаў аматарскіх вакальных гурткоў павялічыўся? Здаецца, што ўсе мы павінны над гэтай праблемай задумоўвацца ў штодзённай дзейнасці нашага таварыства, маючы на ўвазе тое, каб у наступным нашым трыццацігоддзі гэты стан змяніўся на лепшае.

Аглядаючы сапраўды грандыёзныя праявы нашага аматарскага руху, рукі як бы самі складаюцца да апладысментаў, накіраваных як у адрас нашых артыстаў, так і ў адрас галоўнага інспіратара гэтага руху — Беларускага таварыства. Зразумела, артыстам апладыраваць трэба, а таварыству — не абавязкова. Як не дзіўна, але на працягу ўсяго трыццацігадовага існавання БГКТ, наколькі мне вядома, не была праведзена ніводная нарада, прысвечаная выключна праблемам аматарскага руху. Нарада, у якой удзельнічалі б усе кіраўнікі калектываў і найбольш заслужаныя іх члены. На маю думку, такія спатканні, спалучаныя з лекцыямі спецыялістаў па вакалістыцы, маглі б у многім дапамагчы развіццю аматарскага руху. Як вядома, наша таварыства па-за некалькімі выдатнымі спецыялістамі, зрэшты, і так занадта перагружанымі, не мае ў гэтай галіне рэзерваў. А спецыялісты: Сяргей і Аляксандр Лукашукі, Сцяпан Копа і некалькі другіх, нягледзячы на ўсю сваю прыгожую самаахвярнасць, у ніякім выпадку не здолеюць запэўніць апеку ўсім гурткам, колькасць якіх, на шчасце, з кожным годам узрастае. У такой сітуацыі спадзяемся на мясцовых дзеячоў, часта настаўнікаў спеву ў школах, але не толькі на іх, але і на кожнага чалавека, які носіць у сэрцы іскру любві да роднага і ці па-прафесійнаму ці толькі па-аматарску спрые развіццю нацыянальнай беларускай песні.

І яшчэ адно. Міністэрства ўнутраных спраў, якому, як вядома, падпарадкавана Беларускае таварыства, адводзіць параўнаўча значныя грашовыя сродкі на інструменты і вопратку, прызначаныя для мастацкіх беларускіх калектываў. Тое ж самае трэба сказаць і аб Аддзеле культуры Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Зразумела, што не ўсе нашы патрэбы задаволены. Аднак сродкі, якія атрымліваем, не малыя, а калі іх параўнаць са сродкамі, прызначанымі на папулярызацыю другога нашага прыгожага культурнага праяву — літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — дык нават можна сказаць: грандыёзныя.

(Працяг на стар. 11)




### У БЮРО ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Бюро ЦК КПБ на чарговым пасяджэнні разгледзела прапанаваныя Саветам Міністраў БССР дадатковыя меры па далейшаму развіццю электрыфікацыі сельскай гаспадаркі рэспублікі ў дванаццатай пяцігодцы.

Прынятым рашэннем прадугледжваецца больш шырокае прымяненне электрычнай энергіі ў сельскагаспадарчай вытворчасці і ў сферы культурна-бытавога абслугоўвання сельскага насельніцтва.

Бюро ЦК КПБ абмеркавала пытанне аб арганізацыі курсавой перападрыхтоўкі партыйных, савецкіх і ідэалагічных кадраў рэспублікі ў 1986-1990 гадах.

Прынята пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, накіраваная на далейшае паляпшэнне падрыхтоўкі моладзі рэспублікі да воінскай службы.

### БАБРУЙСК — ДЭМБІЦА

У вытворчым аб'яднанні „Бабруйскшына" пабывалі госці з Польскай Народнай Рэспублікі. Дасягнута дамоўленасць аб умацаванні сувязей і перспектыўным супрацоўніцтве да 1990 года калектываў аб'яднання „Бабруйскшына" і шыннага завода „Стоміль" у польскім горадзе Дэмбіца. У прыватнасці, намечаны сумесныя работы па распрацоўцы канструкцый легкавых радыяльных шын, вытворчасці гумавых сумесяў, інтэнсіфікацыі працэсаў вулканізацыі, апрацоўкі корду і іншыя.

### ЭЛЕКТРОННЫЯ „БУХГАЛТАРЫ"

Другая па ліку ЭВМ пачала дзейнічаць у вылічальным цэнтры пры Гродзенскім абласным аграпрамысловым камітэце. З яе пускам пашырылася сфера выкарыстання аўтаматычнай сістэмы ўпраўлення „Аграпром".

Калі раней з дапамогай камп'ютэраў у асноўным ажыццяўляўся кантроль за паступленнем і выдачай запасных частак для рамонту машын і механізмаў, то цяпер з'явілася магчымасць аператыўна вырашаць шэраг іншых складаных задач. Электронныя „бухгалтары" прымяняюцца пры падборы аптымальнага саставу статку, машынна-трактарнага парку канкрэтных гаспадарак, уліку абсталявання ферм. Аўтаматыка падказвае варыянты паляпшэння фінансава-гаспадарчай дзейнасці.

У „арбіту" АСК уключаны ўсе раённыя аграпрамысловыя аб'яднанні, дзе маюцца менш магутныя ЭВМ, а таксама калгасы, саўгасы, аграрамонтныя прадпрыемствы і іншыя службы, аснашчаныя сродкамі дыспетчарскай сувязі.

### РАСШЫРАЕЦЦА „ЦЭХ ЗДАРОЎЯ"

У Баранавічах пачалося ўзвядзенне хірургічнага карпуса на 60 ложкаў анкалагічнага дыспансера. У строй ён увойдзе ў канцы гэтага года.

Корпус будуецца побач з дзеючымі аддзяленнямі і злучыцца з імі спецыяльнай галерэяй. На першым паверсе размесцяцца палікліклінічнае аддзяленне, канферэнц-зала, цыталагічная, марфалагічная і клінічная лабараторыі. Тут будуць функцыяніраваць кабінеты. Другі паверх зойме радыёхірургічнае аддзяленне з прасторнымі палатамі на аднаго, двух, трох і чатырох чалавек. На трэцім — палаты і холы для адпачынку пацыентаў.

### ЯШЧЭ АДНО НАВАСЕЛЛЕ

З кожным годам расце і прыгажэе старажытны горад Беларусі Слуцк. Усё больш з'яўляецца тут сучасных жылых і грамадскіх будынкаў. Нядаўна гарадскі цэнтр упрыгожыў новы белакаменны будынак Дома Саветаў, які ўзняўся ў вышыню на сем паверхаў.

### МУЗЕЙ „ФАУНА ПАЛЕССЯ"

Вялікай папулярнасцю сярод гамяльчан карыстаецца музей „Фауна Палесся", што створан у Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Яго ахвотна наведваюць не толькі студэнты, школьнікі, але і гараджане, а таксама розныя дэлегацыі, турысты. Асабліва шмат тут наведвальнікаў у выхадныя дні. Цікавую інфармацыю можна пачуць ад вопытных экскурсаводаў.




### „ЗОРНЫ РАЙ" ДЛЯ МАНАПОЛІЙ

Яшчэ ў 70-я гады авіяцыйны касмічны канцэрн „Рокуэл інтэрнэшнл" выдаў брашуру пад прэтэнцыёзнай назвай „Касмічная прастора — амерыканская мяжа для росту, лідэрства і свабоды". Аўтары, якіх павёў за сабой адстаўны афіцэр ваенна-паветраных сіл нехта Сэнбарн, для пачатку папалохалі чытачоў змрочнымі карцінамі будучыні Амерыкі: маўляў, чакаюць краіну застой эканомікі, павелічэнне залежнасці ад імпартуемай энергетычнай сыравіны, страта ваеннай гегемоніі, заняпад нацыянальнай маралі. І тут жа, быццам бы незнарок, у парадку, так сказаць, роздуму, як пазбегнуць бед, — далёка нацэленая пасылка. Злучаныя Штаты не прывалецца ў бездань нягод, калі неадкладна зоймуцца маштабным развіццём касманаўтыкі. Але не аб палётах да нязведаных галактык, не аб тым, каб ператварыць калязямную прастору ў крыніцу павелічэння людскога дабрабыту трывожыліся аўтары рокуэлаўскай брашуры. Да таго часу яны вылічылі, што неўзабаве, магчыма, пачнуць бядняць „угоддзі" іх гаспадароў — магнатаў ваенна-прамысловага комплексу, вытворцаў зброі масавага знішчэння.

Справа ў тым, што ракетна-ядзерныя арсеналы пры ўсёй іх каласальнай ёмістасці ўсё ж не былі гумавымі. Раслі горы ядзерных боегаловак. Урэшце, у магнатаў зброі пад рукамі аказалася столькі смяротнага матэрыялу, што, як піша заходнегерманскі часопіс „Шпігель", 67 разоў можна знішчыць увесь свет. Дзялкі ад нажывы разумелі, што аднойчы можа адбыцца загаварванне боегаловак, што звязаны з іх вытворчасцю бізнес зусім не „райскае дрэва", якое будзе бясконца скідваць у іх сейфы залатыя плады.

Нанятыя манаполіямі тэарэтыкі ад ваеннай прамысловасці заклікалі сваіх гаспадароў да неадкладнай пераарыентацыі. „Той, хто заразу, — гаварылі яны, — узнімае стратэгію на больш высокі ўзровень, гэта значыць — у касмічную прастору, атрымае заказы на наступныя 30 гадоў без неабходнасці мяняць профіль і ўнутраную структуру свайго прадпрыемства".

Узнімаць стратэгію новых звышпрыбыткаў пачыналі ліхаманкава, пад крыводушны лямант аб неабходнасці „аднаўлення нацыянальнай велічы", якое, на думку вучонхнайміта канцэрна „Рокуэл інтэрнэшнл", трэба ажыццявіць за некалькі прыёмаў. Апошні — у самым пачатку наступнага тысячагоддзя, калі ЗША змогуць дасягнуць „запланаванага (ваенна-прамысловым комплексам!) выдатнага выніку: акупацыі калязямной прасторы з дапамогай касмічных станцый, аснашчаных лезерамі".

Гэтыя станцыі, па плану „Рокуэл інтэрнэшнл", і „павінны забяспечыць непасрэднае, хуткае і надзейнае панаванне і кантроль над усімі ваеннымі сіламі". Як адзначае той жа „Шпігель", спакуслівая прапанова прамыслоўцаў ураду ЗША было сфармулявана проста: сусветнае панаванне. Тым самым, канстатуе часопіс, брашура, выдадзеная „Рокуэл інтэрнэшнл", ужо мысленна запраграміравала так званую „стратэгічную абаронную ініцыятыву" задоўга да таго, як прэзідэнт Рэйган 23 сакавіка 1983 года выступіў з ідэяй зорных войнаў".

А. К.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# „Наша Доля"


№ 1.

Вильня, 1 сентября 1906 г.

Наша Доля

первая белорусная газета для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.

Адрес редакции и администрации: Вильня, Виленская вулица 32.

Наш палетак.

Да чытацелёў.

Восемдзесят гадоў гэта мала ці многа? Гледзячы, як і каму, — адкажа нехта, і будзе мець рацыю. Яшчэ жывуць людзі, якім па восемдзесят якраз або і болей. Яны — равеснікі Беларускага Адраджэння, сведкі таго — вялікага для нас — часу. Калі калыхалі іх у калысцы, пачыналі з'яўляцца на свет белы першыя легальныя беларускія газеты. Найперш „Наша доля", якая самавызначыла сябе „...для вёсковаго и местоваго рабочаго народу". У верасні 1906 года ў Вільні. Праз два пакаленні пасля „Мужыцкай праўды" і праз адно — ад пачаткаў арганізаванага беларускага палітычнага руху, пакуль што на базе „Народнай волі" (падпольны часопіс „Гомон", 1884 г.). За легальнай „Нашай доляй" стаяла нелегальная партыя Беларуская сацыялістычная грамада (традыцыя яе ажыве ў даваеннай Грамадзе). **Выдадзена ўсяго шэсць нумароў, з якіх... пяць канфіскавала, не дапусціла ў продаж паліцыя. За нястрымную рэвалюцыйнасць. Тым часам гарачка дзевяцьсот пятага выразна астывала, насоўвалася сталыпінская рэакцыя. Трэба было рабіць высновы з сітуацыі, калі разумець, што аніякае падполле не ў стане дабіцца столькі, колькі гэта магчыма ў яўнасць. Так змяніла баявітую „Нашу долю" спакайнейшая „Наша ніва". Акцыя выдавання „Нашай долі" ўяўляецца з гэткай перспектывы як генеральная рэпетыцыя, у выніку якой адраджэнцы набылі арыентацыю наконт маштабаў сапраўды рэальнага ў іхных намерах.** Хто менавіта быў стваральнікам газеты? — пытанне хутчэй за ўсё рытарычнае. Несумненна — тыя самыя дзеячы, якія ўзначальвалі Беларускую сацыялістычную граmаду: браты Антон і Іван Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Вацлаў Ластоўскі, Францішак Умястоўскі, Стацкевіч, Уласаў, паэтэса Алаіза Пашкевічанка-Цётка, Бурбіс (пазнейшы міністр БССР)... Сёння яны для нас веліканы Белай Русі. Ленін ацэньваў Грамаду як леванародніцкую („Гомон" кланяецца?). А хто цалкам канкрэтна прыклаў свае намаганні дзеля ўтварэння газеты „Наша доля" — пакуль няма поўнага адказу, і гэта нязмытая загана гістарычнай навукі. Дзякуючы даследаванням Юркі Туронка з Варшавы мы ведаем, што асаблівы талент у рэдактарскіх справах выяўляў Вацлаў Іваноўскі, студэнт яшчэ тады, гэты няўдалы рэдактар падпольнай беларускай газеты на світанні нашага веку, „Свабоды" (тыраж яе быў зніштожаны). Магчыма, да яго цягнуцца арганізацыйныя ніткі, ён быў тым клубком? У мінскім „Голасе Радзімы" я чытаў нядаўна знакамітае эсэ Валянціны Коўтун, нашай пісьменніцы маладога пакалення і вялікай эрудыткі, якая праніклёна паказвае постаць Цёткі (сёлета надзвычай урачыста святкавалі ў БССР 110-ю гадавіну яе нараджэння).

Кідаецца ў вочы вось што: ініцыятарамі адраджэння беларусаў была моладзь, студэнты. Яны лёгка паднялі на свае маладыя плечы гэты вялізны цяжар. Жменька свядомых беларускіх паўстанцаў з 1863 г. загінула або паўмірала (1900 год гэта год смерці Францішка Багушэвіча, бацькі беларускага патрыятызму). Падпольнікі з Беларускай фракцыі „Народнай волі", якіх згуртаваў быў Ігнат Грынявіцкі, забойца цара Аляксандра II, гнілі ў турэмных цытадэлях або каналі ў сібірскай ссылцы. Адных і другіх змянілі грамадаўцы, хлопцы і дзяўчаты з пецярбургскіх вышэйшых школ, будучыя інжынеры і дактары навук, выхадцы з дробнашляхецкай Беларусі. Адчувалі сябе ўжо сялянамі, заступаліся за цёмнага мужыка, якому, галоднаму і халоднаму, пакуль не да навукі і не да палітыкі было.

Рух Маладой Беларусі нарадзіўся па-за межамі Беларусі. Гэта частая з'ява ў гісторыі нацыянальных рухаў, менавіта — іхнае нараджэнне здаля ад айчыны, але і, як правіла, у кантынентальных цэнтрах культуры ды цывілізацыі. Такім цэнтрам быў тадышні Пецярбург, названы расійскімі інтэлектуалістамі адзіным светлым месцам на змрочных і бясконцых абшарах Расійскай імперыі. Значыць, невыпадкова ў Пепярбурзе. І „Гомон" там друкаваўся, і грамадаўцы адбывалі свае інаўгурацыйныя сходкі ў пятроўскай сталіцы. Адтуль эмітавалі потым імпульсы на беларускую зямлю, зазвычай у Вільню, даўнюю сталіцу былога Вялікага княства Літоўскага. У Вільні былі найспрыяльныя ўмовы. У ёй аранжавалі „Нашу долю", дэбюты Коласа, Цёткі, Ядвігіна Ш., а затым — цэлы шэраг іншых выданняў. І сюды вярталіся з дыпломамі імператарскага універсітэта, інжынерных інстытутаў, вышэйшых курсаў (каб так цяпер з Варшавы ў Беласток!). І на заканчэнне, слова за Валянцінай Коўтун: „Бо ўжо нельга было бачыць, як Твой народ, спрацаваны і цёмны, пад прымусам столаначальнікаў (і без прымусу) запіраецца ўсяго свайго роднага і падшываецца пад чужыя апраткі. Бо хто гэта вытрымае?" („Голас Радзімы" ад 24 ліпеня 1986 г.).

Бо хто ж гэта вытрымае?... Старацца свайму народу, калі ён таго не хоча і яшчэ помсціць табе за гэтыя твае старанні! Трагічнасць беларускага лёсу — адкуль яна такая?! — я ўсё думаю, уначы прачынаюся з гэтымі чорнымі думкамі. Адкуль лёкайства столькі ў нашых людзей? — пытаюся і ўслед за Барысам Сачанкам, удумаўшыся ў ягонае ў сёлетнім ліпеньскім нумары „Літаратуры і мастацтва", дакладна праз восемдзесят гадоў пасля першай легальнай беларускай газеты „Наша доля" (nomen omen).

**Сакрат Яновіч**

# НЕКАЛЬКІ ЛІКАЎ

Нядаўна „Ніва" інфармавала нашых чытачоў аб пачатках пабудовы школы ў Нарве. Думаю, што многім чытачам цікава было б даведацца наогул аб размаху школьнага будаўніцтва ў нашым ваяводстве.

Як прадбачвае план на 1986-90 гады, у нашым ваяводстве будзе пабудавана 57 падставовых школ, у тым ліку 21 школа будзе разбудавана. Пабудуецца 27 прадшкольных будынкаў, 3 комплексныя прафесіянальныя школы, 1 з іх будзе разбудоўвацца, 2 гімнастычныя залы, 1 школа-інтэрнат для недаразвітых дзяцей і Дом дзіцяці ў Беластоку.

У мінулым годзе пачалася пабудова 12 падставовых школ, а 11 пачало разбудоўвацца. Пачалася таксама пабудова 8 прадшколляў, 2 гімнастычных залаў, 2 жылых дамоў для настаўнікаў і 1 комплекснай прафесіянальнай школы.

У гэтым годзе пачынаецца пабудова 9 падставовых школ, пачне разбудоўвацца 8 падставовых школ, 9 прадшколляў і 1 жылы будынак для настаўнікаў.

Такім чынам, на сённяшні дзень у будове знаходзіцца 21 падставовая школа, а 19 — у разбудове. Будуецца 17 прадшколляў, 2 гімнастычныя залы, тры жыллёвыя дамы для настаўнікаў і 1 комплексная прафесіянальная школа.

Апрача ўсяго гэтага, цэлы шэраг меншых школ разбудоўваецца так званым гаспадарчым спосабам — выкарыстоўваючы грошы, прызначаныя на большыя рамонты, і з вялікім удзелам грамадскай працы бацькоў дзяцей і мясцовых прадукцыйных прадпрыемстваў.

Размах школьнага будаўніцтва цесна звязаны з новай хваляй дэмаграфічнага ўзросту пад канец васьмідзесятых гадоў. Пакуль што новыя школы найбольш патрэбны ў новых раёнах Беластока і большых гарадоў, таксама ў мястэчках, дзе школы знаходзяцца ў малых і старых будынках, а дзеці з'язджаюцца ў гэтыя зборныя школы з цэлай шырокай ваколіцы.

(яч)

(Працяг са стар. 1)

## ШТО НОВАГА Ў СПРАВЕ ПАБУДОВЫ БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

6-7 гадоў ад яе пачатку. Да таго ж часу тры гады спатрэбяцца на падрыхтоўку праекта і іншай дакументацыі, звязанай з пабудовай.

Праблема пабудовы новага будынка для Беларускага ліцэя стаіць як адна з найважнейшых ва ўсіх выступленнях начальніка горада, які лічыць, што Беларускі ліцэй моцна заслужыўся гораду і ўсёй Гайнаўшчыне, выпускаючы добра падрыхтаваных маладых людзей для далейшай вучобы і працы. Дагэтуль у Гайнаўцы гаворыцца, якой вялікай падзеяй быў з'езд выпускнікоў гэтага ліцэя: ён паказаў усім прывязанасць і адданасць выпускнікоў сваёй школе, сваёй зямлі, паказаў высокую прафесіянальнасць і адказнасць у жыцці і працы выхаванкаў і настаўнікаў Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Сярод і гайнаўскіх улад, і насельніцтва горада няма сумнення, што гэтак будзе і ў далейшым і што новы „асобны элегантны будынак" школы будзе такой працы вельмі садзейнічаць.

Новы беларускі ліцэй — справа не аднаго горада Гайнаўкі, але і ўсіх гмін, і ўсяго насельніцтва Гайнаўшчыны. Асабліва аднак ініцыятары гэтай пабудовы падкрэсліваюць ролю радаў нарадовых — гмінных і гарадской, якія могуць аказаць у гэтым сваю важкую падтрымку, фінансава дапамагаючы ініцыятыўнаму грамадскаму камітэту пабудовы ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, на чале якога стаіць гайнаўскі актывіст доктар Панталеан Мароз.

Падаем адрас і конта, куды можна ўплачваць грошы:
Inicjatywny Społeczny Komitet Budowy Liceum z Białoruskim Językiem Nauczania w Hajnówce.
Bank Spółdzielczy w Hajnówce
Nr konta: 905217-2251-132.

**Вера Леўчук**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

# ПАСЯБРАВАЛІ З БЕЛАСТОКАМ

ковым супрацоўніцтве, аб супольных справах нашых краін, аб кантактах савецкіх і польскіх грамадзян. Ён падзяліўся таксама сваімі ўражаннямі з пабыўкі ў Гродне, пахваліў дзецям іх прыгожы, задбаны горад.

Цікавай была сустрэча.

Мяне ж цікавіла даведацца якое ўражанне зрабіў на савецкіх піянерах наш горад, Беласточчына, што ім тут найбольш спадабалася.

У адказ на маю просьбу напісаць аб іх супольны артыкул у нашу газету, дзеці з ахвотай пачалі расказваць. Першым азваўся Дзіма Мінчук.

— У вашым горадзе цудоўны парк, — сказаў ён. — Асабліва прыгожы сам дзядзінец палаца Браніцкіх і частка парку па-за палацам. Там цудоўна. А яшчэ мне было вельмі цікава ў музеі Войска. Гэта зусім побач.

— А мне вельмі спадабаўся ваш звярынец у парку, — дадала Іра Мінчук.

Галя Вітуль і іншыя дзеці з вялікім захапленнем гаварылі аб пабыўцы ў Белавежы. Усіх зачараваў белавежскі лес, спадабаўся музей прыроды.

— Такой пушчы, дзікай і непрыступнай, мы яшчэ да гэтага часу не бачылі, — падсумоўвае выказванні дзяцей выхаваўца і музычны кіраўнік Яўген Петрашэвіч.

Вясёлая Бажэнка Бічэўская не можа не пахваліцца тым, што на спецыяльнай імпрэзе для дзяцей, якая адбылася ў тыя дні ў Беластоку, яна заняла ў конкурсе танца, за рок-энд-рол, першае месца і атрымала ўзнагароду.

Іншыя дзеці ўспомнілі аб вельмі сімпатычным супольным з польскімі дзецьмі вогнішчы з песнямі, гульнямі, печанымі каўбаскамі.

Света Жыбартовіч успомніла аб экскурсіі цеплаходам па аўгустоўскіх азёрах.

— Там мы сустрэліся з іншай групай гродзенцаў, якія адпачывалі ў Аўгустове, — казала яна.

Хтосьці ўспомніў аб цікавай выстаўцы народных вырабаў у беластоцкіх „сподках", нехта пахваліў беластоцкія „лёды".

Перад імі была яшчэ экскурсія ў Варшаву. І не памаглі мае словы, што цяпер Варшава не вельмі ў форме, каб прымаць турыстаў, бо вуліцы раскапаны, будуецца, зрэшты, пры выдатнай дапамозе Савецкага Саюза, сапраўднае метро. Дзецям гэта не перашкаджала. Яны ўспомнілі, што не так даўно падобна выглядаў Мінск, а цяпер як там прыгожа!

Потым дзеці разглядалі нашу „Зорку" і „Ніву". Яны ж таксама вывучаюць беларускую мову ў сваіх школах. Адразу ж давалі свае адрасы, каб змясціць на старонках „Зоркі", вельмі хочуць яны, каб да іх пісалі дзеці з Польшчы.

Пасля дзеці спявалі шмат савецкіх прыгожых песень. Спявалі і хорам, і ў квартэце. Ужо тут, будучы ў Беластоку, мастацкі іх кіраўнік Яўген Петрашэвіч напісаў песню, прысвечаную Беластоку. А дзяўчаткі навучыліся яе спяваць. Прыгожая песня.

Цяпер малыя гродзенцы разам са сваімі выхаваўцамі вярнуліся дадому. Час брацца за вучобу. 1 верасня і ў нас і ў іх школы шырока расчыняюць свае гасцінныя дзверы. Зноў прыходзіць час чэрпаць з глыбокай крыніцы ведаў „жывую ваду", шматвяковую мудрасць чалавецтва.

Жадаем усім поспехаў! Жадаем пяцёрак у новым навучальным годзе!

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



**Група дзяўчат пры акампаніяменце Яўгена Петрашэвіча спявае песню аб Беластоку.**



**Памятны здымак удзельнікаў лагера ў Беластоку. Сярод дзяцей — варшаўскі госць Часлаў Тарчынскі, а таксама кіраўнік групы Раіса Хурс і мастацкі кіраўнік Яўген Петрашэвіч.**




Чыстая ліпеньская раніца. Еду ў Гарадок. Краявід дрыжыць за шыбамі аўтобуса, нагрэты ўсё мацнейшым сонцам.

У Гарадку затыкае дыханне горкі пах гарачых флоксаў. Прабіраецца востры ветраны подых Супраслі. Лета.

На вуліцах — пустата. Хто на фабрыцы, хто ў канторы, хто ў полі, хто ў водпуску... Некалькі падлеткаў вяла сноўдаецца па парку. На лавачках у цяньку з каляскамі сядзяць маладыя маці. Памятаю іх як дзяўчат, да ўпаду танцуючых на дыскатэцы ў Доме культуры імя К. Каліноўскага. „У Гарадку ніколі не было старых людзей", — прыходзіць да мяне думка. Я такіх не бачыла, адкуль ведаю Гарадок. Маладосць гэта не толькі стан цела, гэта, можа, перш за ўсё, стан душы. Паглядзіце на гарадоцкі хор...

У гэтым хоры спявае таксама Раіса Дылько. Якраз я да яе сёння прыехала. Яна ўжо 32 гады працуе ў ахове здароўя. Раіса Дылько — старэйшая медсястра, якая займаецца грамадскай апекай у асяроддзі. Раён ПЦК і ПКПС (Польскі камітэт грамадскай дапамогі) вялікі — гэта Зубкі, Гарадок і Каралёвы Мост. Усё трэба дагледзець. Якраз і цяпер няма ў асяродку здароўя ў Гарадку Раісы Дылько, сацыяльнага працаўніка Хрысціны Савіцкай і доктар Ірыны Чарвінскай, кіраўніка ГАЗ. Доктар Маркевіч спалучаецца з імі па радыё — яны цяпер недзе пад Баброўнікамі. Прыедуць цераз 15 мінут. А пасля — зноў у аб'езд.

— Так, трэба ўмець жыць праблемамі старых людзей. І любіць гэтую работу, — кажа доктар Чарвінская. — А моладзі ўсё менш...

Трынаццаць працэнтаў людзей у Польшчы — гэта людзі, якім за 60 год. З даследаванняў Інстытута працы і сацыяльных спраў вынікае, што амаль кожны трэці стары чалавек патрабуе актыўнай дапамогі з боку бліжэйшай ці далейшай сям'і. Усё часцей гэта становіцца абавязкам грамадства і дзяржавы.

Сярод тых, якімі ў гэтым годзе займаецца грамадская апека, пераважаюць старыя людзі і інваліды. Гэтая колькасць (амаль 950 тысяч чалавек) ніжэйшая, чым у мінулым годзе, калі было 1300 тысяч патрабуючых дапамогі. Частка былых падапечных стала самастойнымі.

— Кожныя паўгода правяраем стан. Можам адмовіць у дапамозе, калі яна неабавязковая. Часам дапамагаем зімой, а летам жа падапечным лягчэй. Напрыклад, могуць самі хадзіць у краму, — паясняе Раіса Дылько. — Вастрэйшымі сталі крытэрыі, паводле якіх прымаем рашэнне наконт дапамогі.

У Польшчы сярод амаль мільёна патрабуючых сацыяльнай інтэрвенцыі — на выключна грамадскім утрыманні знаходзіцца 58 тысяч тых, у якіх няма абяспечанай старасці. Не атрымоўваюць яны ні рэнты, ні пенсіі і няма ў іх сям'і, якая мела б абавязак плаціць ім аліменты. Іншая група падапечных — каля 60 тысяч — гэта людзі старыя і хворыя, у якіх невысокая пенсія ці рэнта. Яны атрымоўваюць перыядычную дапамогу (якая назначаецца на 6 ці 10 месяцаў у год). Гэтая дапамога не можа перавышаць 80 працэнтаў самай нізкай пенсіі. Усе астатнія карыстаюцца аднаразовай дапамогай, выдзеленай на вопратку, харчы, паліва, мэблю, хатнія рэчы, бялізну, пасцель і рамонт жылля.

З дзяржаўнага бюджэту на грамадскую дапамогу прызначана амаль 12 мільярдаў злотых. З антыалкагольнага фонду паступіў мільярд. Грошы даюць таксама ПКПС, ПЦК і ТПД. Усяго разам — 14 мільярдаў злотых.

— У нас 20 падапечных, якімі апякуюцца сёстры ПЦК. Іх восем. А 10 падапечных ахоплена „суседскай дапамогай".

— Я бачыла ў аднаго вашага падапечнага такі бланк на „суседскую дапамогу". Ці і на гэта патрэбны паперы? Дзе ж суседзі?

— Бывае, яны такія ж старыя і бяссільныя. Падапечны часам хоча дапамогі і „на пісьме", ён тады спакайнейшы. Грошы малыя, якія даем „суседскай дапамозе" ці медсястры, часам стаяць косцю ў горле. „Дайце нам лепей гэтыя грошы", — гаворыць хворы стары чалавек. А пасля



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Кастры ў Старой Белавежы



Экскурсанты, якія наведваюць Белавежскую пушчу, вельмі ахвотна і часта ўдзельнічаюць у мерапрыемстве, якое называецца „турысцкі касцёр“, а якое падрыхтоўвае Бюро абслугоўвання турысцкага руху ПТТК у Белавежы. Кастры наладжваюцца ва ўрочышчы Старая Белавежа, непадалёк сяла Пагарэльцы. У год іх лік дасягае амаль адной тысячы.

Найцікавейшыя бываюць кастры зімой, калі экскурсантаў вязуць на месца на санях (часта з запаленымі факеламі). Чароўнасці дадае акардэаніст, які ігрой выклікае песні з вуснаў едучых. Весёла плыве час і пры самым кастры. Экскурсанты смажаць на агні каўбаскі або кускі бараніны, ядуць бігос, спяваюць, танцуюць. Часам хтосьці выцягне з-за пазухі штосьці „мацнейшае“, каб разагрэцца (на жаль, некаторыя перабіраюць мерку, а гэтага ўжо нельга пахваліць). Калі яшчэ экскурсавод, які абслугоўвае групу, мае талент да забаўляння людзей, то гадзіны, праведзеныя ля кастра, надоўга застаюцца ў памяці.

Турысцкія кастры паляцца ў Старой Белавежы з канца 60-тых гадоў. Пачаткова яны наладжваліся на левым беразе ракі Лутоўня і толькі зімой. Потым, як лясьнічы Я. Высмулэк добраўпарадкаваў месца на правым беразе ракі, яны перанесліся на новае месца і ад таго часу гараць на ім ва ўсе поры года.

Тут быў створаны таксама турысцкі шлях, які называецца „Каралеўскія дубы“. Ідучы шляхам, а гэтага не абмінае ніводная група, можна ўбачыць шмат старых дубоў, якім дадзены імёны вялікіх князёў літоўскіх і польскіх каралёў, звязаных нейкім чынам з Белавежскай пушчай.

**П. Байко**

Фота А. Дамашэвіча

# Больш кватэр

Міхалоўскі жыллёвы кааператыў мае 250 жылых кватэр у дзесяці будынках, пабудаваных у Гарадку і Міхалове. Пражывае ў іх восемсот чалавек.

У ліпені бягучага года ключы ад новых кватэр атрымала сорак сем'яў. У трэцім квартале гэтага года пачнуць пабудову 28 жылых кватэр у Міхалове.

Праўленне спулдзельні намагаецца шырэй разгортваць грамадска-выхаваўчую дзейнасць. Арганізавала яно два дзіцячых фэстыны: па адным у Міхалове і Гарадку. У верасні распачне дзейнасць гуртох фотааматараў. Дзеля гэтага адрамантавалі невялічкае памяшканне. Нядаўна купілі фотаапараты і неабходнае фатаграфічнае абсталяванне.

**(яц)**

# Мае ўзнагароды

Атрымаў я ва ўзнагароду за сваю дзейнасць Ганаровую грамату Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рады ёй, я забег да знаёмага мне мастака ў Бельску, Міхася Вайткевіча (ён разьбяр). Міхась зрабіў прыгожую рамку на гэтую грамату, кажучы: „А гэта ўзнагарода табе ад мяне“. А затым Грыша Асеннік зашкліў мне яе і я павесіў у сваёй кватэры, побач з партрэтамі Якуба Коласа і Янкі Купалы.

Вось цяпер я адчуваю сябе ўзнагароджаным і Беларускім таварыствам, і сардэчнасцю людзей ля мяне.

**Андрэй Гаўрылюк**

не аддасць, схавае. Або не дасць нам лісты прысутнасці. „Суседская дапамога“ ці сястра паедуць у горад купіць што, бывае, некалькі гадзін патраціць, а падапечны наракае, што мала была ў яго хаце. Ён бы хацеў, каб з ім пасядзець, проста пагаварыць. Тут патрэбна вялікае цярпенне, умеласць паступаць з хворымі, старымі, часам здзіцянелымі і злоснымі людзьмі, часам трэба зубы сціснуць. Але бываюць і цудоўныя, удзячныя людзі, як хаця б Анна Карповіч з Меляшкоў.

У пакой заходзіць сястра ПЦК з Баброўнік, Анастасія Цацэрка. Яна апякуецца псіхічна хворым. Стары гэты чалавек не пагражае асяроддзю, але мучаць яго прывіды. Анастасія Цацэрка прыехала па лякарствы.

— Цяпер і есці яму вару — не баяцца за гэта. Неспакойны ён, усё пераверне. Прыпішыце нешта ад бруду, бо я ўжо рукі адрабіла. Тут у краме ёсць „Ованоль“... І ўсё крычыць, што я яго абкрадаю...

— Гаварылі мы з ім на гэту тэму, растлумачылі. „То вы не прывядзіце, вып'ем паўлітра, і будзе згода“, — кажа ён. Проста хоча пагутарыць, пасядзець! — гаворыць Раіса Дылько. — Калі будзеце яго везці ў парадню, падрыхтуйце яго, пазваніце за хуткай дапамогай і пільнуйце, каб не ўцёк. Вось вам карта, рэцэпты і іншыя паперы.

— Бывае так, што ў падапечнага ёсць сям'я, ды яшчэ на высокіх пасадах. Гэта найбольш трывожыць. Лепей „памыць рукі“ і ўсё аддаць у рукі грамадству і дзяржаве! — абураецца доктар Чарвінская. — А калі чымсьці стары незадаволены, нейкім сапраўдным недастаткам ці яму толькі здаецца, тады звоняць у камітэты і ўстановы: „Не ведаеш пан, з кім гаворыш!“ Калі ты такі вялікі пан, то вазьмі сваіх старэнькіх бацькоў да сябе! Няхай грамадскія грошы ідуць да людзей, якім сапраўды ўжо некуды прытуліцца, а тыя сапраўды часам саромяцца выцягнуць спрацаваную, мазолістую руку, бо ніколі яе не выцягвалі. Цяжка аб гэтым гаварыць. А мы мусім усё разгледзець і колькі зможам, да ўсіх даехаць і дайсці...

І зноў у аб'езд. Сёння яшчэ доўга будуць гасціць у хатах старых адзінокіх людзей іх сёстры.

А пагода ўсё прыгажэйшая. Кветкі пахнуць у агародчыках мураваных бастыёнаў задаволенага багацця і сілы. Хто тут захоча думаць аб хваробе, брудзе, смерці ці адзіноцтве ў такі цудоўны дзень? Зачыніліся дзверы хуткай дапамогі, захлопнулі за сабой горкі пах медыкаментаў. Толькі млеюць флоксы і пахне рэчка, а працавітыя пчолы гудзяць.

**Міра Лукша**

# Бібліяграфічны куточак

Fiodor Sienko, Rozwój rolnictwa Białorusi. „Międzynarodowe czasopismo rolnicze” (Warszawa), R. 1985, Nr 1, s. 3—6.

Aleksander Antoniuk, Z dziejów białostockiej klasy robotniczej. „Muzea walki” (Warszawa). R. 1985, s. 148—156.

Maria Sokolińska, Kształcenie kadr dla potrzeb budownictwa Białostocczyzny w minionym 40-leciu. „Szkoła Zawodowa” (Warszawa), R. 1985, Nr 7—8, s. 29—30.

Anna Kajak, Konferencja poświęcona naukowym podstawom ochrony i zagospodarowania Bagien Biebrzańskich (Łomża, 18—19.X 1984 r.). „Wiadomości Ekologiczne” (Warszawa), R. 1985, Z. 3, s. 315—317.

Romuald Karyś, Nie wstydzimy się czynów społecznych. Rozmowa z naczelnikiem Białowieży mgr. Eugeniuszem Pawluczukiem. „Życie literackie” (Kraków). R. 1986, Nr 15, s. 10—11.

Andrzej Wyszkowski, Śladami Jaćwięgów. „Mówią Wieki” (Warszawa), R. 1985, Nr 12, s. 17—19.

Piotr Bajko, Prezydenckie polowania (w Puszczy Białowieskiej w okresie międzywojennym). „Łowiec Polski” (Warszawa), R. 1986, Nr 3, s. 22.

Tadeusz M. Trajdos, Metropolici kijowscy Cyprian i Grzegorz Camblak (bułgarscy duchowni prawosławni) a problemy cerkwi prawosławnej w państwie polsko-litewskim u schyłku XIV i w pierwszej ćwierci XV w. „Balcanica Posnaniensia” (Poznań), R. 1985 (T. 2), s. 211—234.

Danuta Korolczuk, Uwagi o kształtowaniu małych miast na przykładzie Supraśla i Tykocina. „Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej — Architektura” (Białystok), R. 1985, Nr 2, s. 5—22.

Helena Sawczuk-Nowara, Andrzej Kiluk, Knyszyn w ogólnych planach zagospodarowania przestrzennego. Jak wyżej..., s. 23—25.

Helena Sawczuk-Nowara, Białystok w planach zagospodarowania przestrzennego. Jak wyżej..., s. 37—48.

**П. Байко**

# На дубіцкім возеры

У нядзелю, 10 жніўня бягучага года, над штучным вадасховішчам каля Дубічаў Царкоўных адпачывала каля тысячы чалавек. Найбольш ахвотных адпачыць каля вады прыехала самаходамі, матацыкламі і матаролерамі з навакольных вёсак, а таксама з Бельска і Гайнаўкі.

На месцы можна было скарыстацца з лодак, байдарак і водных веласіпедаў. Прывезлі таксама парусныя лодкі. Некаторыя маладыя людзі прыехалі сюды на некалькі дзён. Яны ўзялі з сабой палаткі і матрацы.

У другую нядзелю жніўня стаяў сонечны спякотны дзень. Прыезджыя гараджане ахвотна загаралі на сонцы на берагу вадасховішча, плавалі на лодках і ваданепрапушчальных матрацах, купаліся. Для ўсіх было дастаткова плошчы — паколькі вадасховішча мае даўжыню ў два кіламетры.

Да дубіцкага возера добры даезд жвіроўкай. Ваколіца тут прыгожая. На пясчаных узгорках расце густы сасновы лес. Крыху зводдаль у сасновым бары паявіліся першыя сёлетнія грыбы-баравікі ды падбярозавікі. Аматары збірання грыбоў павезлі дадому поўныя кашы лісічак. Варта дадаць, што недалёка ад вадасховішча густой сцяной стаіць Белавежская пушча.

На дубіцкае возера можна даехаць аўтобусам ПКС і поездам. З поезда трэба высесці ў Вітаве і ісці ў напрамку вёскі Чэхі Арлянскія. Падаем такія інфармацыі для ўсіх тых нашых чытачоў, хто з „Нівы“ ўпершыню даведаўся пра штучнае возера ля Дубічаў Царкоўных. Зрэшты, аддалі яго ў карыстанне сёлета ў ліпені — якраз з нагоды 42 гадавіны Свята адраджэння Народнай Польшчы.

**(яц)**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

У многіх мясцовасцях усходняй Беласточчыны маладая, зайшоўшы за стол, сядала маладому на калені і сядзела так доўга, пакуль муж не здымаў яе рукамі з каленяў і саджаў побач. Гэты звычай быў прадыктаваны імкненнем да таго, „каб муж насіў яе ўсё жыццё на руках". На Гайнаўшчыне і Бельшчыне часта здаралася, што маладая, сядаючы на лаве, прысядала сабе пальцы правай або левай рукі. Існавала перакананне, што столькі гадоў не будзе мець дзяцей, колькі пальцаў прысядзе. Наогул маладыя прысядалі два пальцы.

Калі маладыя займалі месца за сталом, вясельнікі інтанавалі прыгожыя панегірычныя песні. Вось прыклад такога пахвальнага тэксту з Беластоцкага павету:

Вышла з-за лесу хмара,
За сталом села пара.
Абое раўнюсенькі,
Абое гажусенькі,
Абое кахаліся,
Абое пабраліся.

Быў гэта ўзнёслы момант. Наогул узрушаліся ўсе: старыя і маладыя. Першы раз у бацькоўскай хаце паяўлялася свая дачка, якая як бы станавілася ўжо чужой.

„Бывало, — успамінала Анна Пташынская з Ляшукоў. — прыедзе роднэ дзіця ад шлюбу, сядзе за столом і ты ўжо чуеш, што вано ужэ не твае, што вано ужэ да другое сем'і належыт. То вано, вядомо, і цешытса і мартвітса. Цешытса, што яго ўзялі людзі, а мартвітса, бо сколь можэш ведаці, як вано там будзе у людзей жыці, якую яму Бог даст долю? От, том і усміхнешса і слезу пустіш. А бывало і так, што вэрнецца тая дачка ад шлюбу, улучыт мінутку, каб ніхто не бачыў, прытуліцца да тваіх грудзей, заплачэ і гаворыт: „Ох, мамочко, мамочко! Мае сэрце мне говорыт, што ні зазнаю я замужом шчасця, ні зазнаю. Чом, мамо, ты мане так сілаю аддаеш, ніхай я лепш у цябэ яшчэ пару лет пажыла б". То што вы думаеце. Ні зашчыміт мацерынске сэрцо?! Ашчэ як зашчыміт? Але што ж парадзіш? Тлумачыш дачцы як можэш, гаворыш і аб сабе і аб іншых, што усе мы таксамо за той замуж выходзілі і што такая ужэ наша бабска доля — усе жыце мучыцца і больш нічого. Бывало, стараешса як найхутчэй дачку успакоіць, слёзы ёй выцерці і выслаць да мужыка. Бо калі не, то зараз паявіцца хтось з вясельнікаў і чаго добрага яшчэ на язык возьме. Выправіш тое дзіця за васельны стол і прыкідаешся, што табе васяло, а сэрцо твае шчыміт, шчыміт. І тут і ўсе сны недобры успомніш і прызнакі кепскі на небі і тое, што курка ні так даўно, як певень, заспівала, і што павук на покуці ўсё ўніз спускаўся, і што жабрак тваю хату абышоў. І здаецца табе, што і Бог, і людзі, і звары — усё процій табе і тваго дзіцяці. І таму, гледзячы на дзіця за сталом, тут-сют слезу пусціш, але і ўсміхацца мусіш, бо што ж людзі сказалі б. Як жэ гэто так, каб маці на васелі свае дачкі ні цешылася?.."

Колькі ж горкай праўды ў прыведзеных народных словах!

**А. Баршчэўскі**



Уладзімір Наўмюк. Гаротныя думкі. Фота М. Гайдука

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### СМАЖАНІНА ПА-СЯЛЯНСКУ

Мяса прамыць, парэзаць на кавалкі вагой 30-40 грамаў, злёгку адбіць, пасыпаць соллю, перцам, запаніраваць у муцэ і смажыць да румянай скарыначкі. Падрыхтаванае мяса перакласці ў гаршчок ці каструлю, дабавіць абабраныя і нарэзаныя кружочкамі ці долькамі бульбу, цыбулю, морквў. Усё заліць булёнам (ці вадой), каб ён ледзь прыкрываў прадукты, і тушыць на слабым агні. За 5-10 мінут да гатоўнасці дабавіць смятану, сельдэрэй, лаўровы ліст, соль.

600 грамаў мяса, 6-8 бульбін, 1 морква, 1,5 сталовай лыжкі мукі, 1 корань сельдэрэя, 2 цыбуліны, 0,5 шклянкі смятаны, лаўровы ліст, перац, соль.

### ПЯЛЮХІ

З грэчневай мукі замясіць густое цеста з дабаўленнем яйка і малака (вады), тонка раскачаць, нарэзаць ромбікамі, адварыць іх у падсоленай вадзе ці булёне і адкінуць на друшляк. Гатовыя пялюхі паліць растопленым сметанковым маслам ці салам.

2 шклянкі грэчневай мукі, 1 яйка, 0,75 шклянкі малака ці вады, масла ці сала для паліўкі, соль.

### ПЕРНІК

Цукар, соль, яйка, расцёртую арахісавую халву, павідла, ванілін, карыцу і соду старанна размяшаць да атрымання аднароднай масы. Дабавіць пшанічную муку і замясіць цеста. Раскачаць яго, пакласці на змазаную маслам бляху і выпякаць пры тэмпературы не вышэй за 180 градусаў. Калі пернік будзе гатовы, змазаць яго цукровым сіропам.

Для цеста (на 1 кілаграм пернікаў): 200 грамаў арахісавай халвы, 1 шклянку цукру, 3 шклянкі мукі, 1 яйка, 2 грамы карыцы, 170 грамаў павідла, сода, ванілін, соль.

Для сіропу: 2 сталовыя лыжкі цукру, 4 сталовыя лыжкі вады.

## ІХ ЗАДАЧА — БОЛЬШ НАПІТКАЎ!

У сёлетнюю жніўеньскую пару наведалі мы дзве фабрыкі ахаладжальных напіткаў. У Нараўцы кожны дзень завод прадукаваў па 10 тысяч бутэлек „каралінкі", „фруктааранжу" і сталовай вады. Нараўчанскія напіткі можна было купіць у крамах таксама ў суседніх гмінах.

На адну змену працавала па дзесяць чалавек. Вялікай дапамогай для іх быў аўтамат для закрывання бутэлек і паўаўтаматычная мыйка. У працы вылучаліся вопытныя шматгадовыя работніцы, між іншым, Браніслава Станкевіч, Марыя Трусевіч, Зіна Казёл і Валянціна Насута.

Вытворчае прадпрыемства ў Міхалове выпускала па 6 тыс. бутэлек газіраваных напіткаў на адну змену. У спякотныя дні, калі было большае запатрабаванне на аранжаду, тады работнікі заставаліся на другую змену. Працавалі яны таксама ў некаторыя суботы і нядзелі, паінфармаваў кіраўнік завода, Аркадзь Неплох. Сёлета былі запасы бутэлек (60 тысяч штук) і ўсялякіх сіропаў.

**(яц)**

## СОННІК

35

**Дрыгва** — барацьба за існаванне; праваліцца ў яе — сум і клопаты.

**Дрэва цвіце** — вялікае шчасце; у полымі — вялікія страты; сухое — наўдача; ссечанае — страчаныя надзеі; трэсці — шчасце; рубаць — страта; насіць — трапіш у бяду; купляць — клопаты, праблемы; садовае — верныя сябры; сядзець на дрэве — пашана, гонар; упасці з яго — пасмешышча.

**Дрэсіраваць** — у цябе ёсць людзі, якія не падвядуць.

**Дуб** — адвага, мужнасць, баявітасць; сухі — некалькі смяротэльных выпадкаў сярод знаёмых; зялёны — багацце, доўгае жыццё.

**Дудка** — жалоба.

**Дукаты** (манеты залатыя або сярэбраныя) — спакуса; лічыць — значны даход; чуць іх звон — багацце; знайсці — шчасце; плаціць імі — шчаслівая старасць.

**Думкі** — не вер тым людзям, якія табе прысніліся, што ты пра іх думаў, але калі, прачнуўшыся, адразу падумаеш пра гэты сон — не пагарджай імі, таму што гэта твае сапраўдныя прыяцелі.

**Дурань** — падтрымка; для жанчын — шматлікія дзеці; гаварыць з ім — цябе падмануць.

**Дух** — прыемнасць.

**Духавенства** — доўгае жыццё.

**Душа** — хочаш сябе ўдасканаліць, зрабіць больш добрым, шляхетным.

**Дыван** — значная пасада, узбагачэнне; ткаць — прыемнасці.

**Дызентэрыя** — моцнае, трывалае здароўе.

**Дым** — ілюзорнае шчасце; з коміна — прысягаць, абяцаць; у хаце ці пакоі — цябе спаткаюць непрыемнасці.

**Дынаміт** — сваімі паводзінамі дабʼешся пашаны.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**НАВУЧЫЦЕСЯ СПЯВАЦЬ**

# НА ПАЧАТКУ ЛЕТА

Moderato

**Словы П. Глебкі**
**Музыка Ул. Журовіча**

Я не знаю месяца,
Больш за май шчаслівага,
Калі пушчы цешацца
З гоману шумлівага,
Калі вербы ніцыя
Рвуцца ўвысь галінамі,
Калі скрозь пшаніцаю
Пахне над далінамі...
Але новы сёлета
Подых на аселіцах:
Юны чэрвень молада
Больш за май вяселіцца.
І наўсцяж краінаю
Радасць услаўляючы,
Песні салаўіныя
Льюцца, не сціхаючы.
Нівы пладавітыя
Шэпчуць грузным коласам,
Людзі працавітыя
Кажуць дружным голасам:
— Лета, болей шчаснага,
Доля не адзначыла,
Сонца, болей яснага
Беларусь не бачыла!

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✲ -

Аня Госцік, вучаніца шостага класа, 16-050 Міхалова, вул. Сянкевіча, 1/15, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ -

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Валошина, 32. Прядильщиковой Виктории.

\- ✲ *

СССР, 346511, Ростовская обл., г. Шахты-11, пос. Красный, ул. Горная, 12. Лукову Саше. Перайшоў у 4 клас.

\- ✲ *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты-10, ул. Восточная, 20. Ефимовой Ларисе. 8 клас.

\- ✲ *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/2, кв. 124. Махно Юлии. 12 год.

\- ✲ *

СССР, 346916, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Гресовская, 17/11. Недобуга Наташе. Перайшла ў пяты клас.

* ✲ -

СССР, 344082, г. Ростов-на-Дону, ул. Энгельса, 21/33. Восколуповой Юлии. Скончыла 8 клас.

* ✲ -

СССР, 344056, г. Ростов-на-Дону, 80/1, кв. 91. Легенкиной Наташе. Перайшла ў шосты клас.

* ✲ -

СССР, 346504, Ростовская обл., г. Шахты, ул. 25 лет Октября, 16. Совковой Ольге. Перайшла ў восьмы клас.

* ✲ -

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Островского, 6, кв. 58. Леоновой Наташе.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 25 Аксана Ужастава, 2 клас.

(Працяг са стар. 9)

## ХРАБРЫ ЗАЙЧЫК

Выскачылі Зайчык з маці на шырокую паляну. На ёй было безліч травяністых купін, на некаторых расла белая канюшына. Скубе Зайчык канюшыну і аблізваецца. Скокне з адной купіны на другую, грабяне заднімі лапкамі і радуецца: як хораша тут, у невядомых дагэтуль мясцінах. Убачыў вялізную імшыстую купіну на пагорку ля вербалозу. Скокнуў ён на яе і грабянуў заднімі лапкамі.

Ды што ж гэта?

Як падкінецца купіна, як завые, як махне кудлатым хвастом ды як кінецца наўцёкі.

Застракатала Сарока ў ляшчынніку:

— Паглядзіце, мае мілыя, як Зайчык Ваўка напалохаў.

— Ку-ку, ку-ку, — закрычала Зязюля наўздагон Ваўку.

А вясёлая Берасцяначка падскочыла на кляновай галінцы і зашчабятала:

— Ці-ці-ці! Уцякай, кудлаты і ікласты Воўк, каб твайго духу тут не было!

— Які ж ты смелы, мой сынок! — усклікнула Зайчыха. — Але ўцякайма адгэтуль хутчэй, а то Воўк вернецца і нас на кавалкі разарве.

Пачула гэтую размову Ліса. Глянула яна з-за пня на Зайчыка і падумала: „Пачакай, Шарачок, я цябе падпільную і з такога смелага шкуру здзяру, а мае лісяняткі твае костачкі абгрызуць".

Пачала Ліса цікаваць за Зайчыкам. Адлучыўся ён ад маці, а Ліса за ім. Скача Зайчык то ў адзін бок, то ў другі, а яна следам. Падбягае Зайка да ракі. Куды дзецца? Плаваць жа не ўмее. Прысеў ён за вялікім каменем на беразе вірлівай ракі. А Ліса скокнула на гэты камень, паслізнулася і ўпала побач з Зайчыкам. А ён як грабяне заднімі лапкамі, ажно поўсць пасыпалася з Лісы. Ліса ад болю і страху паляцела потарч у раку. Ледзь жывая выбралася на другі бераг і папялялася незнаёмай сцежкай. А Сарока лятае над ёю і смяецца:

— Ха-ха-ха! І табе папала ад Зайчыка.

Бяжыць Ліса, трасе мокрым хвастом, аж бачыць на ўзгорку Ваўка. Ляжыць той на сонцы і заечыя драпіны залізвае.

— Што, і цябе Зайчык напалохаў і пакалечыў? — пытаецца Воўк.

— Ой, і мне папала, — кажа Ліса і паказвае абшарпаны бок.

— Сплю гэта я, — кажа далей Воўк, — і мроіцца мне, што напалі паляўнічыя з сабакамі. Я як драпануў ад іх... Толькі ад Сарокі даведаўся, што гэтыя здзекі Заяц учыніў. Ой, не дарую я яму.

З таго дня і пачаў Воўк падпільноўваць Зайчыка.

Пайшоў аднойчы Зайчык да свайго сябра Вожыка. Падышоў да дзвярэй, бачыць, на іх замок. Значыць, суседа дома няма. Прайдуся, думае Зайчык, тою сцяжынкаю, дзе Вожык шпацыраваць любіць. Толькі звярнуў на вузкую сцежку, чуе — нехта тупае за ім. Азірнуўся, бачыць, зубасты, ікласты, страшны Воўк бяжыць. Кінуўся Зайчык уцякаць. Глянуў, а наперадзе Вожык сядзіць. Крыкнуў Заяц свайму сябру:

— Ратуйся, дружа Вожык, і цябе і мяне Воўк разарве!

Вожык згарнуўся ў клубочак і выставіў калючыя іголкі. Зайчык пераскочыў цераз свайго сябра і шмыгнуў у густыя кусты. Раз'юшаны Воўк бег і не глядзеў пад ногі. Наступіў ён з разгону на Вожыка і заенчыў ад болю. Пакалоў Воўк аб Вожыкавы калючкі лапу, кінуўся пад куст і пачаў залізваць рану.

— Зноў цябе Зайчык пакалечыў? — крычала з дрэва і смялялася Сарока.

Воўк ад злосці жмурыў вочы і прыкідваўся, што нічога не чуе.

Сарока ж разнесла весткі пра храбрага Зайчыка па ўсім лесе. Ды яшчэ шмат ад сябе дадала пра Заечую смеласць. А ў лясной газеце неўзабаве напісалі, што жыве ў ваколіцы храбры Зайчык, які не баіцца ні Ваўка, ні Лісы, які нікога не крыўдзіць, але і крыўды не церпіць. Чытала Зайчыха газету, паглядала на свайго сына і радавалася, што ён не такі баязлівец, як Слон, што малы Шарачок самы храбры ў лесе, ды яшчэ паслухмяны і добры.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Спалучы кропачкі ад 1 да 16. Хто напалохаў жаб?



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok ul. Wesołowskiego 1

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 30 жніўня а 18-й гадзіне.

### ЗНАЙ, ШТО ТЫ БЕЛАРУС

Дзе б ты не пасяліўся,
Дзе б не звіў сабе гняздо,
Помні, каб ты не забыўся,
Дзе калісь быў малышом.

Не забудзь сваёй хаты,
Дзе жылі бацька і маці,
Там у калысцы калыхалі
І спявалі бай-люлі.

Гаварысь мовай роднай,
Ты не не забывай;
А калі хто запытае —
Беларус ты, добра знай.

Не забудзь, дзе вучыўся
Вымаўляць першы словы,
Добра ведай, што трэба
Мову родну шанаваць.

### ЛЕЎ

— Што сталася з Пятром Пятровічам?
Учора я яго сустрэў,
Такім ён голасам не роў ячшэ.
Не чалавек — сапраўдны леў!
Так смела ён крытыкаваў
начальніка.
А быў жа, помніце, ніжэй травы.
Усё жыццё хадзіў маўчальнікам,
Падняць баяўся галавы.
— Ах, дружа мой, —
Старыя песні:
І заяц львом
Становіцца
На пенсіі.

**Васіль Вітка**

5...4...3...2...1... Старт!






### ВЯЛІКІЯ ЗА ПАРТАМІ




— Ну, што скажаце, Арыстоцель?
— Платон мне друг, а ісціна даражэйшая.

### БЯДА З ГУЗІКАМІ

— Пакупнік да прадаўца:
— Што за агіднасць: учора купіў пінжак, а сёння лопнула спіна!
— А вы не хвалюйцеся. Відаць гузікі былі моцна прышыты.

### РАБАЦЯГА

Сустрэліся два сябры. Прывіталіся. Адзін і пытае:
— Ну, як работа?
— Ды як заўсёды, працую, як збудзяць...

### РАЗЛІК

Нашто прадаваў сабаку, калі шкадаваў?
— Мой сабака не дурны, усё роўна дадому прыпрэцца.

### ХТО ГЭТА

Пан Задрыпкоўскі з жонкай ідуць па вуліцы. Насустрач ім малады чалавек.
— Прывітанне, стары! — гаворыць ён. — Прывітанне, стары! Прывітанне, стары! Прывітанне, стары! Прывітанне, стары! Прывітанне...
— Хто гэта? — здзіўляецца пані Задрыпкоўская.
— Аўтар тэксту сучасных песенек для вакальна-інструментальных ансамбляў...

### НЕ ВУНДЭРКІНД

У дзіцячай калясцы побач з дзіцём ляжаць газеты.
— О, які цудоўны малыш! — захапляецца праходжая бабуля. — Ён ужо чытае газеты?
— Што вы! Ён пакуль толькі рашае красворды.



**Спецыялізацыя: строіць вучонага дурня.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Як кваліфікуюцца пісьменнікі?
— Вядомыя, шырокавядомыя, выдатныя, класікі і ўсе без вынятку геніі.

*

— Колеры нарвежскага сцяга такія ж, як і амерыканскага: чырвоны, белы і сіні, — расказвае гаспадар фермы амерыканцу, які прыехаў правесці лета ў гарах Нарвегіі.
— Я іх заўсёды ўспамінаю, калі мне прысылаюць паведамленне аб плаце падаткаў: чырванею, атрымаўшы яго, бялею, калі бачу суму падаткаў, і сінею, калі выпісваю чэк на плату.
— Са мною тое ж самае, — сумна падтаквае амерыканец, — толькі ў мяне ячшэ і зоркі з вачэй сыплюцца...

*

Пані Хілары звоніць у паліцэйскі ўчастак і паведамляе, што ўжо чатыры дні, як у яе прапаў муж.
— Ваш муж мае якія-небудзь асобыя прыкметы? — пытаецца паліцэйскі.
— Ячшэ не, — адказвае пані, — але будзе мець, калі прыйдзе дадому!

### ПАДКАЗАЎ ВЫЙСЦЕ

— Гэта ўжо занадта, Кастусь, — папракае жонка, — кожны дзень ты прыходзіш дадому пасля поўначы! Я ўжо не памятаю, калі па-сапраўднаму высыпалася!
— Дай мне больш грошай, і я прыйду ранкам, — адказаў муж.

З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЕ Ў БУДАЎНІЦТВЕ

Ачуцінаўскае будаўнічамантажнае ўпраўленне ўзяло абавязацельства не толькі выканаць чарговы план датэрмінова, але і датэрмінова ўстараніць недаробкі, дапушчаныя ў ходзе датэрміновага выканання плана.

### АБ'ЯВА

Санаторыю тэрмінова патрабуецца сіноптык з фантазіяй.







Курёзы!

### НУ І ПАЛІТЫК ЖА!..

У ЗША куды не паварніся — на якісьці „камітэт палітычных дзеянняў" наткнешся. Іх у кангрэсе Злучаных Штатаў ужо шэсць з палавінай тысяч зарэгістравана.

А нядаўна да тых тысяч ячшэ адзін дабавіўся: „Камітэт палітычных дзеянняў па абароне плошчы Франкліна".

Што ж гэтай плошчы так пагражае, што ўжо і да палітыкі дакаціласся?

Ды, якраз самой плошчы — нічога. Справа тут у тым, што плошча Франкліна — гэта раён сталіцы краіны „неабмежаваных магчымасцей", дзе знаходзяцца магазіны парнаграфічных выданняў, і новаспечаны „камітэт палітычных дзеянняў", да якога назва плошчы прылеплена як сімвал, пакліканы забяспечыць інтарэсы парнаграфічнага бізнесу. Вось вам і ўся „палітыка".

### АНГЛІЙСКАЯ НЯДЗЕЛЯ

Свайго часу англійскія заканадаўцы - кансерватары забаранілі гандаль і розныя забавы ў нядзелю (нават дзецям у мяч не дазвалялася гуляць).

На працягу апошніх 34 гадоў у Англіі 19 разоў ставілася пытанне пра „змякчэнне нядзельных законаў", але ў парламенце кансерватары за кожным разам правальвалі законапраект.




**Замыкаючыся ў сабе, не згубі ключы.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020